**№ 11.** **Ausgabe B.**

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

**Беларуская Віленская часопісь**
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакції: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі — па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

**№ 11 (102). Год II.** **Вільня, 6 лютаго 1917 г.** **Цэна 5 фэн. (3 кап.).**

# Пачатак канца.

## Нямецкае вячорнае апавешчэньне.

### 5 лютаго.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). *Вечэрам.* Між Анкр і Соммай — вострыа агонь артылерыі.

Наагул, без выдатных прыпадкоў.

---

2 лютаго вечарам нашы марскіе самалёты закідалі бомбамі Фурнэ і Адінкэркэ.

---

*Вільня, 6 лютаго.*

Амэрыка ешчэ не аб'явіла вайны Нямеччыне, але на захаваньне Амэрыкай міру мала надзеі. Вільсон, каторы ешчэ пеколькі дзён таму назад занімаўся справай міру ў Старой Эўропе, ўцягівае ў вайну і Новы Сьвет.

Для Нямеччыны выступленьне адзінадцатаго ворага не становіць неспадзеванкі. З гэтай магчымасьцю немцы рахаваліся ўжо год таму назад. Выступленьне апошняй вялікай дзержавы сур'ёзна адбіцца на ходзі сусьветнай вайны ня можэ. Гэта мо' пакажэцца дзіўным і непадобным да веры, але гэта праўда. Прыпомнім здарэньня, каторые адбыліся паўгоду таму назад. Выступлень не Румыніі, каторае, на пагляд прыхільнікоў і ворагоў Нямеччыны, павінно было прынесьці пагібель немцам, прынесло ім толькі карысць. Пераход Амэрыкі з непрыхільнай неутральнасьці аткрыта на старану ворагоў Нямеччыны аткрывае апошняй магчымасць свабоднаго, нічым не звязанаго выкарыстаньня ўсіх сваіх ваенных сіл. Ад дня аб'яўленьня Амэрыкай вайны Нямеччыне апошняя не звязана ўжо патрэбай клапаціцца тым, як глядзяць на яе і што думаюць нэўтральные дзержавы, і яна будзе вясьці вайну, кіруючыся толькі ваеннымі мэтамі.

---

## Разрыу Амэрыкі з Нямеччынай.

БЭРЛІН. Даносячы аб разрыве з Амэрыкай, усе газэты адзначываюць, што Нямеччына больш адступаць ня можэ, дык усе грозьбы і лаянкі—лішніе.

Статс-сэкрэтар да заграніічных спраў заявіў амэрыканскім журналістам: „Мы не давалі Амэрыцэ ніякіх абецанак аб падводнай вайне, і ня можэ быць ніякай гутаркі аб нарушэньні іх. У нашай барацьбе за жыцьцё німа адступленьня".

ШТОКГОЛЬМ. З добра асьведомленым крыніц даносяць, што Нямеччына дзеля блокады пабудавала **400 падводных лодак**, ды апрыч гэтаго рад **новых Цэппэліноу.**

ГЭТЭБОРГ. У кіраўнічых кругах пануе думка, што нямецкая блокада зусім адрэзывае англіцкі таргоы флот.

РОТТЭРДАМ. З Шірмоніког даносяць:

Учора былі відны Цэппэлін і 4 нямецкіе крэйсэры. Чутны былі выстрэлы цяжкіх гармат.

АМСТЭРДАМ. Рэўтэр апавешчае:

На нямецкі карабель „Cecylia" у Бостоне наложэн арэшт. Амэрыканскае правіцельство абдумывае плян, каб амэрыканскіе тарговые караблі ішлі цераз пояз блокады пад ахранай ваенных параходаў.

У Панаме наложэн арэшт на 4 нямецкіе караблі, каторые стаялі тамака ад пачатку вайны.

ГААГА. Рэўтэр даносіць з Вашынгтону, што амэрыканскае правіцельство зажадало ад нямецкаго ўраз жэ звольніць узятых новай „Марской Чайкай" у палон амэрыканцоў.

ЛОНДОН. (В. Т. Б.). Ллойд Джордж у Карнарвон сказаў прамову, гаворачы між іншым: „Туркі паказалі, што яны няздольны упраўляць ня толькі якім будзь іншым народам, але і сабой". Каб дайсьці аканчацельнай пабеды, аб якой ён ніколі не сумлеваўся, правіцельству павінен памагаць кожын мужчына і кожная кабета. Апошні крок Нямеччыны Ллойд Джордж назваў роўназначным аткіданьню апошняго прыкрыцьця цывілізації. Цяпер Нямеччына павінна стаяць нагая перад найбольш выбачаўшымі нэутральнымі. Небаспечнасць — вялікая, але яна можэ быць зваёвана энэргіей, адвагай і цьвёрдасьцю. Ворагі зрабілі гэты крок затым, што яны блізкі да поўнай безнадзейнасьці. Мір без пабеды даў бы ворагам магчымасць новай падгатоўкі. 1917-ты год прынясець мір, калі ворагі заўважаць, што ў 1918-ым гаду палажэньне будзе горшае, чым у гэтым гаду. Безміласэрная падводная вайна не павінна аказацца пабеднай. Трэба арганізаваць усе засобы саюзьнікоў. Англіцкі народ споўніць вялікае дзело, але ён можэ учыніць ешчэ болей: Ен пацярпеў менш, чым які-хоч іншы народ Эўропы. Агранічэньне руху на чыгунках звольніць сотні паравозоў дзеля арміі у Франціі і тысячы вагоноў. Не павінна быць больш сумлеваньня і адкладываньня.

---

## Заява украінцоў.

ВЕНА (В.Т.Б.). Міністэр заграніічных спраў, граф Чэрнін, атрымаў ад галавы украінцоў, Васілько, пісьмо, ў каторым гаворыцца:

„Украінцы былі і астаюцца вернымі Імператару і Монархіі. Іх ядыная думка — вызваленьне роднай зямлі ад бязмернаго расейскаго уціску".

---

## Крызіс сусьветнай вайны.

БЭРЛІН. (П.Т.А.). Рэўтэр даносіць, што правіцельство Злучэных Штатоў апавесьціло аб разрыве дыплёматычных зносін з Нямеччынай. Прэзыдэнт Вільсон паведаміў аб гэтым Конгрэсс. Нямецкаму паслу графу Бэрнсдорффу выданы пашпарты. Амэрыканскаму паслу Жэрару загадано выехаць з Нямеччыны.

ВАШЫНГТОН. (Рэўтэр). У сваім пісьме да Конгрэссу Вільсон, між іншым, кажэ:

„С прычыны нямецкай заявы 31 студня гэтаго году аб падводнай вайне амэрыканскае правіцельство не мае іншаго выбару, як паведаміць нямецкаго пасла Бэрнсдорффа, што дыплёматычные зносіны з Нямеччынай разорваны, што амэрыканскі пасол у Бэрліне вызываецца назад і што нямецкаму паслу будуць выданы пашпарты.

„Ня гледзячы на заяву нямецкай ноты, я не магу верыць, каб нямецкае правіцельство безміласэрнай падводнай вайной нішчыло амэрыканскіе параходы і амэрыканскіх грамадзян і гэтым адраклося ад старой дружбы між абодвымі народамі. Калі-ж мая глыбокая вера ў мудрасць і дальнавіднасць Нямеччыны, на жаль, не апраўдаецца, калі амэрыканскіе караблі і жыцьцё амэрыканцоў супроць міжнароднаго права і запаведзі чэлавекалюбства будуць нішчыцца,—дык я папрашу Конгрэсс пазваленьня ужыць спосабоў, патрэбных дзеля зашчыты іх у аткрытым моры.

„Мы ня хочэмо вайны з нямецкім правіцельствам. Мы — аткрытые прыяцелі нямецкаго народу і шчыра хочэмо удзержаць згоду з яго урадам. Мы не дабіваемся нічога апрыч разумнай абароны правоў нашаго народу. Мы хочэмо толькі астацца вернымі старым прынцыпам нашаго народу: бараніць нашае права за волю, справедлівасць і жыцьцё. Гэта—прынцыпы міра, а не вайны. Ніхай Бог зробіць так, каб нямецкі урад не прымусіў нас выступіць дзеля абароны іх".

БЭРЛІН. Амэрыканскі пасол у Бэрліне, Жэрар, атрымаў прыказ зачыніць пасольство. Усе амэрыканскіе консулы выедуць з Нямеччыны.

Гішпанія ўзяла на сябе зашчыту амэрыканскіх спраў у Бэрліне.

ВАШЫНГТОН. Амэрыканскаму Конгрэссу пададзен праект пазыкі 500 мільёноў дольляроў дзеля падгатоўкі арміі і флоту і дзеля змаганьня з элемэнтамі, якіе спагадаюць Нямеччыне.

Марскі міністэр Даніэльс загадаў марскім станціям учыніць крокі дзеля забаспечэньня іх.

Правадаўчая камісія сэнату разгледае спосабы зашчыты Амэрыкі ад змоў, якіе могуць пачацца с прычыны разрыву дыплёматычных зносін з Нямеччынай.

МАДРЫД. Нарада міністроў трывала 3 гадзіны. Міністэр-прэзыдэнт пасьля сказаў, што разгледалі нямецкую ноту і пасьледзтвы ад яе. Ніякіх пастаноў ешчэ не было зроблено.

КОПЭНГАГА. Са Штокгольму даносяць, што правіцельствы Даніі, Швэціі і Норвэгіі учынілі крокі, каб дабіцца баспечнай для іх лініі у Англію.

---

## Пачатак канца.

Пасьля заявы Нямеччыны аб пашырэньні падводнай вайны і устанаўленьня блокады берагоў Англіі, Франціі і Італіі вайна дайшла да свайго найвышэйшаго развіцьця.

Гэты крок Нямеччына, як відаць, зрабіла дзеля таго, каб палажыць канец тактыцэ Англіі, якая старалася чым больш зацягіваць вайну. У першых месяцах вайны тагочасны англіцкі ваенны міністэр Кітчэнер, пагібшый у тым гаду на моры, заявіў, што хаця Англія ад самаго пачатку ваюе, але англіцкі народ папраўдзі выступіць толькі на трэйці год вайны. Тады ў Нямеччыне вельмі сьмяяліся з гэтай заявы, дый і ў самай Англіі на яе не глядзелі зусім сур'ёзна. У заяве Кітчэнэра бачылі адзін с чысьленых „блефоў", каторымі англіцкіе гасударственные мужы так любяць усіх дзівіць. Цяпер, блізка цераз год пасьля сьмерці Кітчэнэра, трэба прызнаць, што Кітчэнэр сказаў тады праўду—мо' нават несьвядома, што прароцтвы яго збываюцца.

Англія вела вайну дагэтуль пераважна пры помачы сваіх коляніяльных войск і сабраных у сваей старане дабравольцоў. Англіцкі народ выступіў толькі цяпер — пасьля завядзеньня агульнай ваеннай павіннасьці. І калі дагэтуль ён працівіўся ваеншчыне, дык напэўна можна сказаць, што апошні крок Нямеччыны зусім пераменіць адносіны англічан да вайны. Ужо назаўтра пасьля таго, як у Англіі даведаліся аб аб'яўленьні немцамі блокады англіцкіх берагоў, у-ва ўсей Англіі узнялася цэлая бура гневу, выявіўшаяся ў усіх англіцкіх газэтах. Нават такая паважная газэта, як „Globe", дамагаецца разстрэлу палонных нямецкіх афіцэроў. Аб тоне газэт тыпу «Daily Mail» і «Daily Tel.» німа што і казаць.

Ня трэба быць англічанінам, каб зразумець, чаму англіцкі народ гэтак крыўдуе і абурэн да глыбі душы с прычыны нямецкай блокады. Двадцаць пакаленьнёў англічан узрасталі ў традыціях панаваньня Англіі на моры. Праз доўгіе сталецьця і дагэтуль Англія лічыла абідай, калі вораг яе важыўся паказаць на моры свой флаг. Ешчэ колькідзесят гадоў таму назад англіцкі прэм'ер-міністэр Пальмэрстон меў сьмеласць сказаць у Ніжняй Палаці, што Англія не прызнае на моры нямецкаго флагу і будзе глядзець на немцоў, як на піратоў. А вось цяпер пад тым пагарджаным флагам аб'яўляецца блокада англіцкіх берагоў і зрываюцца марскіе зносіны Англіі. Лёгка зразумець, што Англія глядзіць на гэта, як на самую цяжкую абіду, на якую можэ быць толькі адзін атказ: самая вострая вайна да канца!

Але, апрыч гэтых моральных прычын, Англія мае ешчэ і вельмі матэр'яльные прычыны дабіцца хутчэй развязкі сусьветнай вайны: голад, каторы дагэтуль гразіў, як здавалося, толькі Нямеччыне, пачынае ешчэ ў большай меры гразіць Англіі. Калі Нямеччыне удасцца, як трэба, правясьці блокаду і папраўдзі недапусьціць падвозу тавароў у Англію, дык у найбліжэйшым часі палажэньне Англіі будзе крытычнае. Адгэтуль для Англіі гэтак часта ужываные англічанамі словы „час—найлепшы наш саюзьнік", ня маюць больш ніякай вагі. Кожын тыдзень далейшаго змаганьня набліжае для Англіі голад.

Гэтак зацягіваньне вайны сталося немагчымым і для англічан. І апошні нямецкі крок набліжае развязку вайны. Але, з другога боку, нельга зачыняць вачэй і на тое, што чым вайна будзе карацейша, тым больш будзе яна вострая, і нямецкіе газэты не укрываюць, што найбліжэйшые месяцы, а мо' і найбліжэйшые ўжо тыдні суляць нам крывавые бітвы, аб якіх мы дагэтуль ня чулі.

Блокада Англіі прымусіць і англіцкі народ прызнаць справедлівасць старой нямецкай прыказкі: лепшы страшэнны канец, чым страшэнства без канца.

---

# Памяці „Цёткі".

*(У гадаушчыну сьмерці).*

Для вялікіх дзел патрэбны людзі сільнай душы і вялікаго сэрца. Каб новая ідэя, новая сьветлая думка дайшла да вушэй народу, яе павінны абвешчаць людзі-прарокі, чый голас, як той старадаўны звон вечавы, будзіў-бы прыспаные сэрцы, прамаўляў-бы да сумленьня людзкога, не даваў-бы супакою тым, хто ў шэрым будзенным жыцьці забыўся аб сваей годнасьці чэлавека, забыўся, хто ён ёсць і кім быць павінен.

Гэтак прамаўляюць да людзей паэты; гэткую сілу маюць і тые, хто, цьвёрда верučы у сьвятасць сваей справы, аддае дзеля яе ўсэ свае сілы, сваё асабістае шчасьце, сваё жыцьцё — ўсяго сябе. Толькі сваім ахвярным жыцьцём, толькі сваей крывёй сэрдэчнай, пралітай дзеля вялікай ідэі, творцы і сяўцы яе могуць павясьці за сабой народные массы, падняць іх, да вышыні тэй ідэі.

Такую вялікую душу, такі магутны голас мела адна с першых работніц на ніве адраджэньня сталецьцямі няволенаго народу беларускаго—без пары зыйшоўшая ў магілу сьв. п. Алёізія с Пашкевічоў Кейрысовая, першую гадаўшчыну сьмерці каторай памянуло ўчора беларускае грамадзянство.

Угледаючыся у сьветлы ідэал вызваленьня свайго народу ад фізычнаго і духоваго рабства, ішла Яна цярністай сьцежкай свайго жыцьця. Многа, многа каменьнёў лежало на Яе дарозі: спазнала Яна і голад, і холад, і сьмяротную адмогу, калі веле можные ворагі народу нашаго, засудзіўшые яго жывога на сьмерць, на кожным кроку здзекаваліся і прасьледавалі Яе за Яе працу. О, бо ворагі нашы умелі нанасіць страшэнные удары тым, хто асьмеліўся сказаць новае слово аб нашым народзі: адны не шкадалі насьмешак і аткрыта нападалі, апіраючыся на фізычную сілу наездчыкоў; другіе нанасілі ўдары у сьпіну, стараючыся пад маскай фальшывай дружбы ўліць у душу яд недавер'я да самай ідэі беларускаго адраджэньня, яд сумлеваньня аб сваіх сілах і сілах народу. Але Яна, слабая і хворая фізычна, мела душу бытцым кованую са сталі, мела сэрцэ пламеннае, — і ні простые ўдары, ні замаражываючые ўселякі гарачы парыў Юдавы словы не здалелі забіць у Ей веру ў свой народ. У натхнёных словах сваіх паэтычных твороў звала Яна братоў сваіх „да сонца! да зор!" На гутаркі аб слабасьці народу атказывала славамі, поўнымі веры ў сілу мільённых грамад „шэрых, простых" людзей:

„Цяпер, брацьця, мы з граніту,
„Душа наша—з дынаміту,
„Рука цьвёрда, грудзь акута,—
„Пара, брацьця, парваць пута!"

Калі ў часі вялікай расейскай рэвалюціі народ наш першы раз „свой голас даў", „Цётка" была ў першых радах байцоў за волю народную. Сьмела, без страху за свой заўтрашні дзень выступала Яна на вялікіх народных мітынгах, якіе тады рэволюцыйные организаціі сазывалі ў сталіцы нашаго Краю, і ў гарачых прамовах кідала словы прызыву да сваіх паняволеных братоў і словы пракляцьця насільнікам. Тут, у Вільні, знаў Яе ўвесь рабочы народ. Знали і па ўсім Краю „грамадзяне" адважную таварышку „Беларускай Соцыялістычнай Грамады" — „Цётку".

А калі насталі часы рэакціі і „расплаты" царскаго ураду за рэвалюцыйную работу, „Цётка", выехаўшая за граніцу, ўсе сілы свае аддавала беларускай культурнай рабоці. Чуткім сэрцэм прачувала Яна, што недалёка той час, калі ад прызывоў і пропаганды прыдзецца перайсьці да будаваньня асноў самабытнаго культурнаго бытаваньня беларускаго народу. І сваю любоў да „братоў сермяжных", да родных ніў і вёсак уліла Яна ў свае кніжкі для школы беларускай, ладжэнай цішком—пакрыёму.

Ажно вялікую веру Яе ў жывую сілу свайго народу пацьвердзіло само жыцьцё: для часьці нашаго Краю апалі путы рабства, і мова беларуская здабыла ўрэшці прыналежнае ей мейсцо ў нашым грамадзкім жыцьці. Дык ураз жэ пасьля адходу расейцоў „Цётка" кінулася да организаціі беларускіх школ у Вільні, курсоў і іншых беларускіх организацій. І тут Яна была заўсёды першая, выяўляючы незвычайную, непадобную да веры рухлівасць і працавітасць. З Яе імем назаўсёды звязана справа беларускай школы.

Ліхая доля судзіла Ей сьмерць у той самы момэнт, калі „Цётка" найболей рвалася да жыцьця, калі была найбольш патрэбна свайму народу. Але, паміраючы, Яна мела прынамсі тую пацеху, што бачыла першые праявы правядзеньня ў жыцьцё свайго Ідэалу.

Не змарнаваўся доўгі, цяжкі труд найлепшых гадоў жыцьця Яе. Справа беларуская стаіць ужо на цьвёрдым фундамэнці,—і кожын дзень прыносіць беларускаму народу ўсё новые і новые заваеваньня. Думкі-сны невялікай калісь грамадкі ідэалістоў збываюцца на яве. І мы, таварышы Яе трудоў пры пракладаньні дарогі да лепшай будучыны народу нашаго, ў гадаўшчыну сьмерці „Цёткі" найлепей ушануем сьветлую памяць Яе, падвоіўшы энэргію ў далейшай працы дзеля роднай Беларусі.

*А. Л.*

---

# У Вільні і ваколіцах.

× Беларускі тэатр. 17 лютаго у салі Работніцкай страўні на Ва-

---

# Бярозка.

Сухая бярозка стаяла у полі.
Спусьціўшы сучкі, як сіротка плакала.
Не зазелянеець яна больш ніколі!
Сухая бярозка стаяла.
Усім жэ цяпер так вясёла у маю!
Аджыло усё, зелянее наўкола!
Расьцець і цьвіце і сьпевае, як ў раю!
Усім жэ цяпер так весола!
Ох, доля твая, як магіла, смутная!
Чаму-ж не ўсьмяхнецца ніколі нам міла?
Мой Краю! Зямелька мая дарагая!
Ось, доля твая, як магіла!

**Янка Быліна.**

Меднікі, 30.І.17 г.

---

# Немач і жыцьцё.

Люблю я тую хацінку-ох, у каторай стрэха захварэла на воспу, вокны—на зубы, а ў сьценах рэўматызм. І вось на крывым парозі, як на вывернутай шчацэ, пасаджу перацёртаго жыцьцём чэлавека, без нагі, у салдацкай шапцы. І перэнясу я ўсё гэта на палатно у шэрых, мурзатых фарбах. Эх, малюнак выйдзе удалы! Павешу я яго у блакітным... не, лепш у ружовым пакоі пышнаго палацу свайго, сяду на ружовай канапе насупроціў малюнку і буду пясьціць сваё хворае вока. Але мне, мізэрнаму, хочэцца ешчэ даведацца, што дзеецца у хацінцы-ох.

— Паздароў вас, Божэ!

— Добраго здароўя! — атказалі мне згрэбные, аброслые зямлёй людзі сіпатымі галасамі, з жоўтымі, у сіневатые жылкі вачыма, і перш, чым пачалі гаварыць, вырваўся з грудзей іх цяжкі, як сама зямелька, стогн.

— Ага, хворые! Людзі стогн!—цюкнуло мне у мазгі.

Я сеў на гнілую лаву, палажыў на брудны, цікавы стол паперу, ўзяў пяро. Брыльянт на маім персьцені, згледзіўшы сонцэ, пачаў стрэляць калючым, рознакалёрным агнём. Я стаў пісаць, а яны—людзі-стогн—падсказывалі, баялі мне легенды, казкі, прыказкі, пеялі песьні, ігралі на незамыславатых інструмэнтах, танцавалі, крыўляліся, ну, проста, як дзіч якая, бытцым ашалелые; яны мне паказалі сваю душу, сваіх багоў, сваю гісторыю, мінуўшчыну, будучыну. Я пісаў на брудным-цікавым стале—да душы, цікавым: чатыры калкі с карой, убітые ў зямлю, зверху насланые доскі, змацаваные чорным, сьмярдзючым, як зуб балючы, клеям,—хіба што клеям!.. Я заўзята пісаў, ажно падубелі мае пальцы. А брыльянт усё гарэў агнём—рознакалёрным калючым, цацкаўся с сонцэм.

Я напісаў аграмадную кнігу с чырвоным загалоўкам „Стогн" і пусьціў яе ў сьвет. А сьвет, пабачыўшы і пазнаўшы гэту кнігу, назваў мяне геніем, а кнігу зрабіў сваей эвангеліей, і чытаў яе, пеяў, іграў, маліўся і жыў паводлуг яе.

І дачуўся аб гэтым чэлавек-стогн. Сабраўшы манаткі, пайшоў ён з вёскі зялёнай у бліскучы горад: вельмі ўжо зацікавіла, завабіла новая рэлігія.

— Гм! а што, калі яна мне есьці дасць?!—думаў ён.

Але горад абакраў яго, знехлемяжыў, ашэльмаваў да рэшты, так што чэлавек-стогн ня меў за што вярнуцца ї гінуў, марнеў і ня мог даць весткі — рады сваім братом. А браты яго плылі і плылі раз-за-разам, год-за-годам; плылі у бліскучы горад, прадаючы сябе на пагібель сваю. Толькі душа і багі іх разбагацелі, ой, як разбагацелі: выліліся у бязформные залатые крыўлякі, цацкі для пацехі бязкроўных ручак!

А на кнізе ў багатай акладцы замест чырвонаго загалоўка „Стогн" вырас залаты надпіс „Штукарство".

(Далей будзе).

роньняй вул. № 5 (даўней Палескі клюб) беларуская драматычная дружына заіграе «Паўлінку» Я. Купалы, камэдію с пеяньнем і танцамі у 2-х акт.

× **Пачтовые зносіны з Аўстрыей.** Ад 1 лютаго дапускаюцца прыватные пачтовые зносіны між Обэр Ост і Аўстрыей. Усе пісьмы павінны быць аткрытые. Такса— гэткая самая, як для Нямеччыны.

× **Тэлеграмы ў Варшаўскае генэрал-губэрнатарство.** Між нашым Краем і Варшаўскім Генэрал-губэрнатарствам дапускаюцца тэлеграфные зносіны, не агранічываючы чысла слоў.

× **За фальшывы данос.** Работнік Язэп Люткевіч са злосьці абвінаваціў трох тутэйшых дзеўчат у шпіёнстві. За фальшывы данос яго засудзілі на 3 месяцы ў вастрог.

× **Курс рубля:** офіцыальны — 2 м. 00 фэн. за рубель; у банках пры прадажы — 2 м. 18 ф., пры куплі—2 м. 22 ф.

Пазычковая каса бярэ 6%.

× **Пажары.** У апошніе часы вельмі часты прыпадкі пажароў, прычынай каторых часьцей усяго бывае або неасьцерожнае адагрэваньне вадаправодных труб, або выкіданьне гарачаго попелу ад брыкетаў на котухі, каторые загарэўшыся пераносяць агонь і на суседніе будоўлі, або надта сільнае напаліваньне печаў, ад каторых загараюцца прылегаючые сьцены. Трэба тут прыкінуць, што вельмі часта у нас печы будуюць не так, як трэба, стаўляючы іх адразу на дзерэвянай падлозе.

У апошніе часы не праходзіць ні адзін дзень, каб у якойсь часьці нашаго места не здарнўся пажар, а вельмі часты прыпадкі, калі местовая пажарніцкая каманда без адпачынку з аднаго пажару едзе на другій.

У апошнім тыдні былі, між іншымі, такіе пажары:

*29 студня:* на Гарбарскай вул. № 11 ад неасьцерожнаго абходжэньня з агнём загарэліся сені і сьцена дзерэвянаго дому. Агонь хутка загасілі. На Саф'яніках № 4 у склепі загарэліся лахманы і ін. сьмецці Ня гледзючы на вялікій дым, не дапускаючый да мейсца катастрофы, пажарнікі хутка згасілі агонь. На Сьніпішках згарэлі казармы рабочаго батальёну. Агонь пачаўся так неспадзевана, што шмат хто не пасьпеў вынясьці сваей адзежы, або астаткоў штодзеннай стравы. Пажар пачаўся ад печы, каля каторай валялося шмат саломы і стружэк. Казармы згарэлі да тла. Пачаўшая гарэць суседняя стайня адратавана.

*30 студня:* на Вароньняй вул. № 3 у аднэй с кватэр ад печы загарэлася падлога.

*31 студня:* ў памяшчэньні б. Рэальнай школы (М. Погулянка) ад печы загарэлася сьцена, суфіт і падлога. Пасьля 2 с паловай гадз. працы пажарнікі агонь загасілі.

*1 лютаго:* каля старога Палескаго вагзала ад печы загарэлася сьцена дзерэвяннаго жылога дому. А 5 гадз. веч. на Архангельскай вул. № 29 загарэлася прачкарня Прыемскаго, а ад ёй складзік Маліняго. Абедзьве пастройкі згарэлі да шчэнту. А гадз. 8 вечэр. ў маёнтку „Маркуце" Пушкіновай загарэўся дзерэвяны дом, у каторым жыў неякі Л Шмурло. Дом згарэў да шчэнту. Помач падаць было вельмі трудна дзеля таго, што дом стаяў на стромкай гарэ і не было магчымасьці падвясьці бочкі с вадой.

× **Марозы.** У апошніе дні марозы ў Вільні даходзілі да 24° (Reaum.), а за местам — у полі ешчэ болей. Шмат людзей у ваколіцах Вільні замёрало.

Кажуць, што у віленскім павеці паказаліся воўкі, каторые ходзяць грамадамі па некольні штук і кідаюцца на падарожных.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| за дзень з 31 на 1 | −12° | −25° |
| „ з 1 на 2 | −12,° | −21° |
| „ з 2 на 3 | −17° | −33° |

× **Пад конскімі капытамі.** На Вострабрамскай вул. каля д. № 22 якійсь воз наехаў на прахадзіўшаго праз вуліцу Ошэра Кабачніка, каторага акалечэнаго конскімі капытамі адвязьлі ў жыдоўскі шпіталь.

× **Несчасьлівае здарэньне.** На Россе № 19 ў часі плаваньня дроў калода упала на нагу Константаго Алктініса, зламаўшы яму нагу. Скорая помач атвезла яго ў шпіталь Савіч.

— **Дзіця ў агні.** На лежачае у калысцэ 10-мес. дзіця Лікмана упала гарэўшая сьвечка, ад каторай загарэлася пасьцель. Пакуль выратавалі дзіця з агня, яно ўжо было сільна апаленае. У карэтцэ скорай помачы дзіця адвязьлі ў шпіталь Савіч.

---

# З усяго Краю.

### Сэкція мэліорацыі.

БЕЛАСТОК. Пры аддзелі VII C для краёвай культуры аткрыта сэкція дзеля воднай гаспадаркі і мэліорацыі. Сэкція павінна становіць цэнтральную установу дзеля дачы рад для гаспадарскіх камітэтоў у межах занятых зямель.

### Вада для Гродні.

ГРОДНЯ. Ад першаго дня Каляд 1916 г. у гродзенскім вадаправодзі німа ўжо вады з Нёмана, а ёсць толькі крынічная вада. За расейцоў ужывалі нёманскую ваду, толькі фільтруючы яе. На жаль, фільтры працавалі вельмі дрэнна, і вада была ў вельмі негыгіенічным стане.

Вада с крыніц, якую бяруць для вадаправоду, мае ў летку і зімой блізка туюж самую тэмпэратуру ад 6° да 7½° Цэльсія. У ей ёсць жалезо, вапна і іншые часьці, каторые ўходзяць у склад касьцей.

### «Міжнародные» канакрады.

ДОБУША, Маляцк. пав. Тут хэўра канакрадоў украла 5 каней. Віленскі акружны суд за гэта засудзіў: Наполена Знамероўскаго с Фаворак — на 3½ г. у папраўчы дом, Казіміра Росевскаго с Позэльвы — на 2 г. вастрогу, Івана Батішова з Вільні — на 1 год вастрогу. Язэпа Бачуліса з Гірэльцоў — на 9 мес. вастрогу.

### Кража каровы.

ГРЫКІШКІ. У селяніна Леоновіча віленцы Вішнеўскі, Ворнян і Барткевіч укралі карову і зарэзалі яе. Міравы суд першаго з іх засудзіў на 9, а двох другіх —кожнаго на 6 месяцоў вастрогу.

---

# Апавешчэньне

П. Глаўнакамандуючый Арміей у мінуўшым месяцы налажыў гэткую контрыбуцію на ніжэйпісаные грамады ў межах Этапу:

1) на грамаду Покекле, Мар'ямпольскаго пав., — за тое, што 27. XII. 16 у Покеклях згарэло гумно с сабраным ураджаем і што, трэба думаць, тут быў падпал, — 355 м.

2) на грамаду Стравенікі I, Кошэдарскаго пав., — за тое, што ў Стравеніках I 31. XII. 16 згарэло гумно с сабраным ураджаем і тут быў падпал, — 1000 м.

3) на грамаду Сыгмантышкі, Владыслав. пав., — за тое, што 7. I. 17 у Сыгмантышках згарэла хата с сабраным ураджаем і пажар тлумачыцца неуважлівасьцю аднаго жыхара, — 200 м.

4) на грамаду Завадзкі, Владыслав. пав., — за тое, што 15. I. 17 ў гэтай грамадзе спаліліся запасы ільна і пажар тлумачыцца неуважлівасьцю аднаго жыхара,— 300 м.

5) на грамаду Пагарэльцы, Сэйненскаго пав., — за тое, што ў начы з 11 на 12. I. 17 ў Пагарэльцах згарэла хата і хлявы з запасамі ураджаю і падазрэваецца падпал, — 500 м.

6) на грамаду Верстоміны, Сэйнэнск. пав., — за тое, што 11. I 17 у Верстомінах згарэло гумно і хлявы з значнымі запасамі ураджаю і відаць, што тут быў падпал, — 1000 м.

7) на грамаду Локайцы, Вілковіскаго пав., — за тое, што грамада ведала аб бытнасьці ўцёкшых расейскіх ваенных, ды аб іх не заявіла, — 2 000 м.

Е. Н. О., 1 лютаго 1917 г.

Der Etappen-Inspekteur
падп. v. Trotta,
Гэнэраллеўтэнант.

---

# ВЕСТКІ З РАСЕІ.

### Назначэньне.

ПЕЦЯРБУРГ. В. кн. Міхаіл Александровіч назначэн глаўным інспэктарам кавалерыі.

### Атстаўка Барка?

ПАРЫЖ. Расейскі міністэр Барк, як пішуць газэты, ня вернецца на сваё мейсцо з отпуску. Ен маніцца ізноў паступіць у Волжско-Камскі банк, у каторым быў перш глаўным дырэктарам.

### Палажэньне Голіцына.

КОПЭНГАГА. «Русск. Вед.» даносяць с Пецярбурга:

„Палітычные кругі перакананы, што кн. Голіцын выйдзе у атстаўку ешчэ перад сазывам Думы. Між ім і Протопоповым узняліся сур'ёзные недаразуменьня, каторые робяць немагчымай уселякую супольную работу членоў правіцельства, бо Протопопов хочэ ўзяць у свае рукі ўласць у габінэці. Насьледнікам Голіцына ў першы чарод лічаць б. міністра сельскай гаспадаркі, Бобрінскаго, і маршалка Дзержаўнай Рады, Шчэгловітова.

### Місія Штырмэра.

МАЛЬМЭ. Б. расейскі міністэр-прэзыдэнт Штырмэр выехаў у Штокгольм з асаблівым загадам.

### Нарада саюзьнікоў.

ЛОНДОН. «Times» пішэ, што нарада саюзьнікоў у Пецярбурзі раздзялілася на тры сэкціі: адна занімаецца ваеннымі опэрацыямі, другая — спажыўнымі справамі і ваеннымі матэр'ялямі, трэйцяя — фінансамі.

ШТОКГОЛЬМ. Цар прыняў на аўдыэнціі членоў сазванай у Пецярбурзі нарады саюзьнікоў. Былі пры гэтым міністры заграніччных спраў і імператарскаго двара і паслы Англіі, Францыі і Італіі.

### Пад кантролем саюзьнікоў.

ШТОКГОЛЬМ. Поўофіцыозные «Моск. Вед.» даведаліся с пэўнай крыніцы, што прэдстаўнікі ўсіх саюзьніцкіх дзержаў будуць наглядаць за арганізацыей падвозу і раздачы спажыўных прадуктоў у Расеі, бо Расея сама ня можэ споўніць гэтых дужа трудных задач.

### Пратэст проці англіцкіх вымог.

ШТОКГОЛЬМ. «Русск. Слово» пратэстуе проці дамаганьня Англіі, каб Расея ешчэ больш напружыла свае сілы дзеля вайны. Расея аддала ўжо ўсе свае сілы і зрабіла ўсё, што магла зрабіць.

### «Насьледнік» Распутіна.

КОПЭНГАГА. «Русск. Вед.» пішуць, што ненавісны для ўсіх паступовых кругоў пецярбурскі мітрапаліт Пітірім заняў мейсцо Распутіна і мае туюж незразумелую сілу пры царскім двара, як і забіты нідаўна Распутін.

### Узрыў поезду.

ШТОКГОЛЬМ. С Пецярбурга даносяць, што на чыгунцы Одэса—Яссы здэрыліся поезды і пры гэтым узарваліся два вагоны са снарадамі. Забіты 70 душ — пераважна румынскіх уцекачоў; раненых больш 200 душ.

### Расейцы ў Пэрсіі.

ТЭГЭРАН. Усе газовые студні ў паўночнай Пэрсіі знаходзяцца цяпер у расейскіх руках. Пэрскіе газовые студні былі прычынай умовы 1907 году, паводлуг каторай у палудзеннай часьці Пэрсіі меліся гаспадарыць англічане, а ў паўночнай—Расея.

---

# З усяго сьвету.

### Проці «колеровых» работнікоў.

ЛОНДОН. Прэм'ер-міністэр прыняў дэпутатоў ад капальняных, жалезнадарожных і транспортных работнікоў, каторые заявілі яму жаданьня работнікоў у справе дапушчэньня колеровых работнікоў.

### Насяленьне Нью-Іорка.

НЬЮ ІОРК. Як мы ўжо пісалі, Нью-Іорк цяпер мае 7½ мільёна жыхароў і занімае першае мейсцо паміж гарадамі сьвету. Паводлуг найнавейшаго спісу тамака жыве 735.000 эмігрантоў з Расеі. Цікава было-бы даведацца, колькі ў тым чысьле беларусоў і, наагул, эмігрантоў з нашаго Краю.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

**2.II. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Між Армант'ер і Арра адбіты чысьленые наступленьня англіцкіх патрулёў. Наабапол Анкр і Соммы—вострая артылерыйская бітва. Пры Мірамон і Лесар нашы патрулі ўзялі ў палон 1 афіцэра і 12 салдатоў. Каля дарогі Гэдэкур—Боленкур англічане пасьля вострага агня ўварваліся на нашу пазыцію на шырыні аднэй роты. Контратакай яны былі выкінуты і утрацілі некольні душ палонными.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: На вяршыне Комбр і ў лесі Айі патрулі вярнуліся з 20 палонными.

У паўночнай часьці заходняго фронту была значная чыннасьць лятуноў. Нашы лятучые эскадры зрабілі цэнные досьледы аб англічанах. У бітвах на паветры ворагі утрацілі 7 самалётоў.

**Усходні тэатр.**

Пры сільным марозі са сьнегам выдатных прыпадкоў не было.

*Македонскі фронт*: без перамен.

**3. II.**

Ні на адным з ваенных тэатроў не было ніякіх прыпадкоў.

**4. II. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Пры імглістай, марозьлівай пагодзі артылерыйская бітва між Ленс і Арра і ад Сэрр да С. П'ер Вааст была вастрэйша, чым у тые дні. На поўначы ад Анкр англічане у поўначы, пасьля барабаннаго агня, штурмавалі нашы пазыціі. На поўначы ад Бокур штурмы адбіты. На узьбярэжжы ракіаднаму атраду ўдалося ўварвацца ў нашы пярэдніе акопы.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На поўначы ад Понт-а-Муссон і ад Ст.-Міэль патрульные операціі былі удачны.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Ня гледзячы на сільные марозы, ў бітвах на Аа адбіты некольні расейскіх атак.

На фронтах эрц-гэрцога Іозэфа і Макензэна палажэньне без перамен.

*Македонскі фронт*: Апрыч артылерыйскай бітвы каля Манастыра, на Вардары і возеры Дойран, нічога выдатнаго.

## БЛОКАДА АНГЛІІ.

МАДРЫД. Нямецкая нота аб блокадзе Англіі вызвала тут незвычайна сільнае ўражэньне.

АМСТЭРДАМ. Правіцельство Злучаных Штатоў апавешчае, што параходы, як і заўсёды, могуць выхадзіць з Нь'ю Іоркскаго порту, але правіцельство не прынімае за іх ніякаго атказу.

Апавешчэньне Нямеччыны аб блокадзе Англіі вызвало страшэннае неспакойство на тутэйшай біржы. Адзначывалося незвычайнае панікэньне курсу.

ЛОНДОН Англіцкіе газэты атказалі на блокаду Англіі шалёнымі выступленьнямі. Яны цьвёрда дамагаюцца рэпрэссій. «Globe» жадае, каб былі разстраляны палонные нямецкіе афіцэры. Газэты годаюцца на тым, што наступае час незвычайных страшэнств на вайне.

БЭРЛІН. Агенцтво Рэўтэра сабрало з амерыканскіх газэт усе галасы, якіе дамагаюцца разрыву з Нямеччынай. С прычыны таго, што з Амэрыкай німа безпасрэдных зносін, нельга праверыць праўдзівасць гэтаго.

ХРЫСЦЫАНІЯ. Апавешчэньне блокады Франціі, Англіі і Італіі вызвало тут незвычайнае ўражэньне.

КОПЭНГАГА. С прычыны нямецкаго апавешчэньня аб блокадзе назаўтра ня выйшоў с портоў ні адзін параход.

АМСТЭРДАМ. Газэта «Tijd» піша:

„Нямеччына і Англія, відаць, пакляліся загубіць адна адну ў гэтай вайне. Нямецкая падводная вайна будзе страшэнная для Англіі".

НЬ'Ю-ІОРК. Даверэная у прэзыдэнта Вільсона асоба, палкоўнік Гаўс, быў у Вільсона блізка праз цэлы дзень.

Амэрыканскі марскі міністэр, Даніэльс, заяўляе ў аднэй палудзенна-Каролінскай газэці, што Амэрыка жджэ прыказа ад прэзыдэнта. Ен, Даніэльс, лічыць немагчымым захаваць свой гонор. Усе амэрыканцы паддзержаць разрыў зносін. Калі ад іх зажадаюць другіх крокоў, яны зробяць усё.

ЛОНДОН. «Times» даносіць з Нь'ю-Іорку:

Скольні можна бачыць, большая часьць членоў амэрыканскаго парляманту стаяць за асьцярожные крокі.

Рузэвэльт дамагаецца ад Вільсона заявы, што—у прыпадку пагібелі амэрыканцоў с прычыны узмацаваньня падводнай вайны —нямецкіе параходы ў амэрыканскіх портах будуць сконфіскованы.

ГААГА. У газэце апавешчэн загад правіцельства, што ўсім голандзкім падданым ад 19 да 48 гадоў забаронено выежджаць заграніцу.

ШТОКГОЛЬМ. С прычыны апавешчэньня нямецкай блокады берагоў Англіі спыніліся ўсе параходные зносіны між Швэціей, Норвэгіей і Даніей з Англіей. Многа тысяч матросоў асталося без работы.

## „Вайна да пабеды".

БЭРЛІН. Ваенны міністэр сказаў:

„Развязка вайны—ешчэ наперадзі. Наш кліч: бітва! Аб міры ня трэба шмат гаварыць. Палахлівые душы хапаюцца за гэту саломку. Німа міра без пабеды! Дык кожын павінен лічыцца з гэтым як дома, так і там—у полі. Стаўка—ўся спадчына нашых прэдкоў, усё, што называецца нямецкім. Кожын будзе змагацца за тое, што ён называе сваім. Дык усе сілы трэба сабраць дзеля змаганьня і адкінуць думкі аб міры".

### Знова на англіцкаго караля.

ЦУРЫХ. (Гавас). Сьледзтво ў Лондоні выявіло, што тры суффражысткі, якіе хацелі атруціць Ллойда Джорджа, меліся зрабіць пакушэньне і на караля Гэорга.

### Грэцкая трагедія.

АФІНЫ. Мукі грэцкаго народу с прычыны блокады растуць кожын дзень. Правіцельство было прымушэно выдаць пекарням муку, назначэную для арміі. Амэрыканскае пасольство атрымлівае многа просьб дабіцца пазваленьня саюзьнікоў на пропуск у грэцкіе порты хоць некольніх параходаў с хлебам.

Спадзяюцца новых вымог саюзьнікоў у справе цэнзуры, паліціі і чыгунак.

АФІНЫ. Газэты друкуюць ноту саюзьнікоў, якая дамагаецца, каб ваенные матэр'ялы і мундзіры, прызнаные нягоднымі, былі-бы так сама высланы ў Пэлопонэс.

Недастача спажыўных прадуктоў дае сябе знаць усё болей і болей.

Брытанскі пасол Эліо заявіў, што блокада аказалася найлепшым спосабам, каб „правучыць" грэцкае правіцельство.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар В. Ластоўскі.